16 палосаў

Зь любоўю да ўлоньня

1995 №1

# Белавежская Пушча

## Да чытачоў

Дабрыдзень!

Гэтым шчырым і сьпеўным словам мы рады вітаць Вас, першых чытачоў і, спадзяёмся, будучых сяброў новай беларускай газеты. Мы вітаем Вас, шаноўныя, і словамі самое нашае назвы. Спалучэньне "Белавежская пушча", бадай, на слыху ў кожнага беларуса, жыхара нашае Бацькаўшчыны — вяскоўца і гараджаніна, эколага і палітолага, малога і старога. У гэтых словах, у іх спаконвечных складах гучыць нявынішчанай нотай годнасьць і краса беларускага народа, яго гісторыя і слава, надзея і таямніца.

Вітаючы Вас, дарагія сябры, мы з доляю аптымізму прамаўляем і словы жанчыны-паэткі Ларысы Геніюш: "Будзем жыць, бо яны жывуць". Сёньня, калі чарнобыльская бядота прыйшла на Беларусь, паэтычны радок як бы нарадзіўся наноў. Будзем жыць... Пушчанскі волат з у б р падтрымае нас сваёю моцаю, прагаю выжываньня. А мы, грамада, падтрымаем яго.

Гэта датычыць і нас, хто жадаў і прыйшоў да Вас. Хоць сёньня новай газетай нікога ня зьдзівіш, тое, аднак, не азначае, што нараджэньне чарговага выданьня, тым больш прыродалюбнага, такога як наша — справа, што называецца, аднае "тэхнікі". Гэта ня так. "Белавежская пушча" нараджалася доўга й цяжка і пакуль што ня мае ні тае самае "тэхнікі", ні сталага фундатара, ні даху над галавой, апроч Пушчы.

Але дасьць Бог, запаможамся, ўсё будзе, прыдбаецца, і ў рэшце рэшт абнадзейвальна-выратавальнае "будзем жыць" спагадна асьвеціць і лёс нашага выданьня.



Зроблены першы крок. Свой пачатак мы пазначылі словамі "Зь любоўю да ўлоньня." Кажуць, людзей, у якіх яшчэ не адмерлі прыродалюбныя клеткі, менш ды менш. Будзем аптымістамі: апрача газет, нараджаюцца людзі. Наш крок і да іх.

Будзем жыць! Будзем славіць прыродную красу і біялагічную разнастайнасьць Беларусі на яскравым прыкладзе Белавежскай пушчы, іншых нерушаў ды ацалелых мясьцін Бацькаўшчыны. Будзем папулярызаваць экалагічныя ісьціны, веды аб роднай прыродзе. Будзем расказваць пра духоўныя, эстэтычныя каштоўнасьці нацыі, разам з Вамі адстойваць іх ад глуму й зьдзерства.

Сёе-тое мы пачалі. Пачынайце з намі і Вы, сябры. Чытайце, прапануйце, будзьце дарадцамі. Дзякуй Вам. І дзякуй пакаленьням дзядоў-прадзедаў, якія ўбераглі і Пушчу, і слынную назву яе.

"Будзем жыць!"

"Доўга жыць!"

## *Будзем жыць, бо яны жывуць...*



Фота: Ян Ежы Карпінскі (1896-1965)

Калі вяртаешся зь Белавежскай пушчы, ў цябе пытаюцца, ці бачыў зубра. Бачыў ці не, зусім ня важна — трэба казаць, што бачыў, і гэта будзе праўда, бо Пушча — зьява ягонай прысутнасьці.

Зубр можа стаяць, адліты з паветра. Зьлеплены з сьнегу, калі гэта зіма. Альбо зь лісьця — калі буяе лета, замшэлага дрэва — ў часе бяссьнежжа.

Можна ўбачыць і зусім рэальнага ў вальеры. Калі стаіш побач зь ім, ягоная веліч і сіла найбольш пераканальныя.

Вачамі мераеш ягоную вагу, любуешся прапорцыямі цела, спрабуеш зазірнуць у старожкую, зласнаватую цемень вачэй. Неруш таемнай стыхіі міжволі палоніць і дзейнічае на чалавечыя ворганы амаль магічна.

Гл. стар. 6.

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс" і пры падтрымцы Дзяржаўнага нацыянальнага парку "Белавежская пушча".*

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук.*

*Для кантактаў: 220088 Менск, а/с 122
Тэл. (0172) 36-50-76*

## Белавежская пушча: рэтра-анонс

983 — першае ўпамінаньне Пушчы ў рукапісах (Іпацьеўскі летапіс);
— пачатак выцясненьня яцьвягаў з Пушчы кіеўскім князем Уладзімерам.
1409 — зьяўленьне назвы "Белавежская пушча" ў польскіх і літоўскіх граматах-пісьменах
1414 — пераход Пушчы ў польскае ўладарства
1538 — прыняцьце Заканадаўства аб лясах Пушчы
1557 — пачатак здабычы попелу, смалы, дзегцю і вугалю
1627 — гібель апошняга еўрапейскага тура — жыхара Пушчы
1641 — першае апісаньне межаў Пушчы
1705 — зьнікненьне высакароднага аленя
1795 — пераход Пушчы ва ўладарства Расеі
1802 — выданьне Ўказа на забарону паляваньня на зубра
1809 — пачатак рэгулярнага падліку зуброў
1811 — пяцімесячны (з мая па кастрычнік) пажар у Пушчы;
— запачаткаваньне абавязковай падкормкі зуброў караняплодамі і сенам
1832 — далучэньне да Пушчы Сьвіслацкай лясной дачы
1842–1847 — першае лесаўпарадкаваньне Пушчы; стварэньне сеткі кварталаў
1861–1862 — правядзеньне другога лесаўпарадкаваньня
1864 — завоз з Германіі 18 высакародных аленяў
1870 — далучэньне да Пушчы раней адарванага Гайнаўскага карабельнага гаю;
— спыненьне існаваньня Пушчы як адзінага лясного абшару
1878 — зьнікненьне апошніх мядзьведзяў
1880 — ураган над Пушчай
1884–1885 — экстраннае пераўпарадкаваньне лясного фонду з-за аблады стваловых шкоднікаў
1888 — перадача Пушчы й Сьвіслацкай дачы ва ўласнасьць царскай сям'і
1889 — пачатак будаўніцтва паляўнічага палаца
1903 — чарговае лесаўпарадкаваньне ў сувязі з →

# Запаведнік-парк

*Вячаслаў Семакоў*

Памежны гераічны Брэст — старадаўняе Берасьце — ведаюць, бадай што, ў самых далёкіх кутках сьвету. Але ня ўсе пасьпелі ўведаць яшчэ адно гістарычнае месца непадалёку — лічы, побач, за 40 кіламетраў — старажытны гарадок Камянец. Сам невялікі, шмат драўляных, па-вясковаму забудаваных вулачак. Затое зь вялікаю мураванаю вежаю. На высокім пясчаным пагорку. На левым беразе ракі Лясной.

Славай сваёю Камянецкая вежа (позьняя назва Белая вежа) сягнула куды шырэй, чымся гарадок, над якім яна велічна ўзьнеслася пад аблокі. Пабудаваная больш як 700 гадоў таму (дзесьці паміж 1276 і 1288 гг.), вежа мела адмысловае прызначэньне: зь яе пільна высочвалася набліжэньне да горада варожых войскаў — літоўскіх і тэўтонскіх рыцараў.

Калісьці вежа-стоўп узвышалася ў атачэньні дрымучага лесу, які за доўгія стагодзьдзі адступіўся ад яе сьценаў на шмат кіламетраў. І толькі з вышыні ацалелага помніка можна разгледзець цёмны абшар лесу — з тых лясоў, якія шумелі ў ваколіцах Камянца многа стагоддзяў таму. Сёньня гэты разлог, як і слынны непрыступны мур, прымушаюць мацней біцца сэрца кожнага патрыёта. Бо і ён, гэты лес (афіцыйна — Дзяржаўны нацыянальны парк "Белавежская пушча"), і гэтая вежа — сапраўдны гонар беларускага народа, неацэнны скарб і каштоўнасьць.

Слова "пушча" — адно з самых выразных і сьпеўных у беларускай мове. За ягонымі гукамі лёгка ўяўляеш лес натуральнага паходжаньня, які захаваў першабытны выгляд. Што да словаў "белавежская пушча", дык яны пачалі зьяўляцца ў польскіх і літоўскіх граматах-пісьмёнах зь сярэдзіны 1409 года і, як бачым, дайшлі да нашых дзён.

**У дагістарычны час тут жыў мамант і пячорны мядзьведзь. А сьлед першага чалавека, які зьявіўся ў Пушчы, гісторыя чамусьці ўтаіла.**

Пра Пушчу пісалі шмат. Толькі ў адным анатаваным бібліяграфічным паказальніку, што выйшаў у Мінску 10 гадоў таму, падаюцца зьвесткі пра 1859 літаратурна-інфармацыйных крыніц. А сюды не ўвайшла літаратура на польскай ды іншых замежных мовах, сьпіс якой шмат перавышае ўзгаданы паказальнік. Прыкладам, Чэслаў Аколуў, вядомы польскі вучоны ды бібліёграф, толькі ў адным даведніку (1981-1985 гг.) падае сьпіс літаратуры пра Пушчу ажно ў 1987-мі найменьнях.



*Камянецкая (Белая) вежа. З даўняй выявы*

Чым так вабіла да сябе гэтае слыннае месца біёлагаў, краязнаўцаў, увогуле аматараў прыроды?

Наблізімся да геаграфічнае карты. Сёньняшняя Белавежская пушча — гэта рэшткі старажытнага лясного абшару, які разьлягаўся ў XII ст. ад Балтыйскага мора да Буга і ад Одэра да Дняпра. Зьвесткі пра Пушчу як пра стары, некрануты лес маюцца ўжо ў Іпацьеўскім летапісу (983 г.). Археалагічныя раскопкі паказалі, што ў дагістарычны час на тэрыторыі Пушчы жылі мускусны бык, пячорны мядзьведзь, паўночны алень, мамант. Што датычыць чалавека, дык вучоныя пакуль не гатовыя даць адказ, калі ўпершыню ён зьявіўся ў Пушчы. Адно ў Кіеўскіх летапісах маюцца згадкі пра існаваньне тут ваяўнічага племені — яцьвягаў, якія палявалі і лавілі рыбу. Іхнае паходжаньне таксама невядомае. Адны гісторыкі маюць іх за літоўцаў, другія — за славянаў, а трэція ўвогуле адносяць да перасяленцаў зь берагоў Чорнага мора.

Выцясняць жа яцьвягаў з тэрыторыі Пушчы пачаў кіеўскі князь Уладзімер у 983 годзе. А літоўскі князь Трайдзень у 1281 годзе паставіў апошнюю кропку ў барацьбе зь імі...

Нашэсьце татараў, нямецкіх рыцараў Пушча зьведала шматкроць, пазьней жа пачаргова станавілася вотчынай то літоўскіх князёў, то польскіх каралёў.

**На працягу вякоў Пушчу пілавалі, дзялілі, вывозілі. А хіжая плойма заваёўнікаў хацела ўдосталь паесьці.**

Першая спроба займець з Пушчы даход датуецца сярэдзінай XVI стагоддзя. Пры польскім каралі Сігізмундзе Аўгусьце на яе тэрыторыі былі пабудаваныя чатыры заводы па вытворчасьці жалеза. У гэты ж час пачалася здабыча попелу, збор смалы, гонка дзёгцю, выпальваньне вугалю. Але асаблівa пышна промысловае асваеньне Пушчы пайшло пры апошнім польскім каралі Станіславе Аўгусьце. Гэта ягоная ўладарная рука распарадзілася расчышчаць рэкі Нараў, Нараўку і Лясную, прычым вярхоўі першых дзьвюх былі злучаныя каналам. Пачаўся сплаў лесу ў Данцыг, а старыя шкляныя, смалакурныя, шкіпінарныя, ганчарныя і попельныя заводы — адноўленыя.

У 1795 годзе, пасьля падзеньня польскага ўраду, Белавежская пушча была далучана да Расеі.

*Прысьпешвае і змушае да прыняцьця неадкладных рашэньняў асноўнае пытаньне выжываньня чалавецтва на экалагічна крохкай планеце. К сярэдзіне наступнага стагоддзя колькасьць людзей на зямлі можа падвоіцца, а аб'ём вытворчасьці павялічыцца ў чатыры разы. Каб людзі мелі на стале прымальную ежу, для гэтага вытворчасьць харчовых прадуктаў павінна вырасьці ўтрая. Аднак рэсурсы для ўстойлівага разьвіцьця сельскай гаспадаркі на сёньняшні дзень амаль вычарпаныя. Не спыняецца глум і вынішчэньне лясоў па ўсім сьвеце, зьмяншаецца біялагічнае багацьце планеты, зьнікаюць віды жывёл і расьлін.*

Справаздача аб чалавечым разьвіцьці 1994.
ААН

Кацярына II раздала значную яе частку сваім набліжаным, што бралі ўдзел у пакарэньні гэтага лясного краю. Так, 20 тыс. дзесяцін цэнтральнае часткі Пушчы аддадзена графу Румянцаву, а 10 тысяч — графам Ферзену і Сіверсу. Зямлю наўкола польскіх паселішчаў Белавежа, Нараўка і Скупава ўзяў у арэнду на 50 гадоў фельдмаршал Кутузаў, а Масева і Нямержа — нехта палкоўнік Дранякін.

У траўні 1811 года ў Пушчы ўзьнік моцны лясны пажар, які не ўдавалася патушыць ажно да сярэдзіны кастрычніка. Полымя ўтаймавалі толькі восеньскія дажджы. Выгаралі пашы, малады зялёны падрост.

Але не адно агонь быў прычынаю скарачэньня колькасьці пушчанскай жывёлы. У 1812 годзе лясны край стаўся адным з тэатраў ваенных дзеяньняў імператара Напалеона. Сьледам

Гл. стар.3

за французамі ў Пушчу заступіў аўстрыйскі корпус Шварцэнберга і, вядома ж, таксама не дадаў ёй цішыні. Больш за тое. Уся гэтая хіжая плойма патрабавала шмат харчу, ільвіную долю якога і склалі дзікія капытныя, здабытыя ў пушчанскіх нетрах.

При канцы трыццатых гадоў у Пушчу зачасьцілі майстры-карабельшчыкі зь Пецярбургу, бо "знайшлі" тут вялікія запасы таўстамерных дрэваў. На высечку іх залучылі ажна 3 тысячы чалавек, якія за кароткі час прыкметна працерабілі векавыя насаджэньні сасны й дубу. Неўзабаве (1842-1847) было зроблена першае лесаўпарадкаваньне, якое вызначыла запасы драўніны, што ацалела. Увесь абшар быў разьбіты прасекамі на 666 кварталаў памерам дзьве на адну вярсту. Таксама былі створаныя

5 лясьніцтваў, 10 аб'ездаў і 77 абходаў. Тым часам канец 40-х гадоў XIX ст. характарызуецца масавай высечкай белавежскага лесу. Прыкладам, для гандлёвага дому "Томпсан і Бонар" за 3 гады (1845-1848) высечана 13 тысяч соснаў. Пра варварскія метады "гаспадараньня" з абурэньнем пісалі А.Герцэн і М.Агароў у газеце "Колокол".

У 1861-1862 гг. ў Пушчы праводзіцца другое лесаўпарадкаваньне. Адначасова прымаецца рашэньне аб вяртаньні ў пушчанскія шаты высакароднага аленя. Першыя 18 аленяў прывезены зь Нямеччыны (1864), астатнія 200 жывёлін — крыху пазьней — зь Сілезіі і Багеміі.

Аднак страты адступаліся, каб неўзабаве напомніць пра сябе зноў і зноў. На пачатку 1880 года над Пушчаю пранёсься моцны ўраган, які наламаў многа векавых дрэваў. Успыхнула масавае размнажаньне мошак-шкоднікаў, што сваёй чаргой пацягнула высыханьне значнае часткі насаджэньняў. Спатрэбілася тэрміновае пераўпарадкаваньне ляснога фонду, якое было зроблена ў 1884-1885 гг.

У 1888 годзе цар Мікалай II зацьвердзіў праект, згодна зь якім Белавежская пушча і Сьвіслацкая

*Будынак музея прыроды на сядзібе нацыянальнага парку ў Камянюках.*





*Сцэна паляваньня*

дача графа Тышкевіча перадаваліся ва ўласнасьць царскай сям'і ў абмен на царскія землі ў Арлоўскай і Сімбірскай губернях. Такая акалічнасьць стала падставаю для новага лесаўпарадкаваньня, якое было зроблена ў 1903 годзе, — гэты раз на тыпалагічнай аснове. Колькасьць кварталаў была падвоена за кошт зьмяншэньня іх памераў да аднае квадратнай вярсты; устаноўленая нумарацыя кварталаў захоўваецца і сёньня, што дае магчымасьць лепш назіраць насаджэньні.

Жнівень 1915-га. Першая сусьветная вайна дакацілася і да Пушчы. Нямецкія акупанты праклалі ў яе нетрах каля 300 кіламетраў вузкакалейных чыгунак, пабудавалі чатыры тартакі і за два гады вывезьлі ў Нямеччыну 4,5 млн. кубоў найлепшай драўніны.

Эксплуатацыя лясных багацьцяў ня скончылася і тады, калі адгрымела вайна і Пушча перайшла ва ўладарства Польшчы. Толькі цяпер яе пілавалі ня немцы, а канцэсіянеры зь фірмы Цэнтура. Штогод ў Англію вывозілася больш за мільён кубаметраў лесу. Цяжкі, вынішчальны сьлед гэтай дзейнасьці Пушча нясе на сабе аж дагэтуль.

1939. Год памятнага ўзьяднаньня: Заходняя Беларусь, а зь ёю і ўся Белавежская пушча — ў межах Саветаў. Пушча абвяшчаецца дзяржаўным запаведнікам. Але нітачка цішыні абрываецца зноў. Усталёўваецца акупацыйны рэжым. Другая сусьветная вайна не пакінула гэты раз бібліятэкі і навуковага архіву запаведніка — яны цалкам зьнішчаныя, былы царскі паляўнічы палац, дзе разьмяшчаліся службовыя памяшканьні, спалены. Пасля ачышчэньня Пушчы ад нямецкіх войскаў запаведнік ўзнавіў дзейнасьць, але ў ранейшым выглядзе праіснаваў да восені 1944-га. Міжурадавая польска-савецкая сустрэча завяршылася падпісаньнем пагадненьня аб перадачы часткі Пушчы (58 тыс. гектараў) суседняй дзяржаве.

## Пушча — гэта мірная зеляніна і адчуваньне вечнасьці

Навуковы калектыў запаведніка быў аднадушны: ўнікальны куток прыроды трэба як мага захаваць і дасьледаваць. Праз год пасьля спыненьня ваенных дзеяньняў Пушча разгортвае фронт навуковай дзейнасьці. Для сумесных дасьледаваньняў запрошаны такія выбітныя вучоныя як акадэмік К.Скрабін, прафесары С.Севярцаў, С.Тураў, А.Баньнікаў. Празь іхныя намаганьні быў складзены сьпіс млекакормячых і іншых пазваночных Пушчы, а таксама паразітуючых на іх гельмінтаў. Як вельмі важкую можна ацаніць дапамогу ў вывучэньні лясных насаджэньняў вядомага беларускага лесавода, акадэміка І.Юркевіча.

Аднак палітыка ў дачыненьні да лясоў, асабліва ўнікальных, не заўсёды грунтавалася на падыходах, якія б катэгарычна і цалкам выключалі практыку зьбядненьня і спустошаньня біялагічнай разнастайнасьці. У жніўні 1957-га намеціўся новы (мабыць, не лепшы) этап дзейнасьці запаведніка "Белавежская пушча" — досыць выразны ўжо з самога найменьня новаўтворанай структуры: запаведна-паляўнічая гаспадарка. Гэтым актам быў красамоўна пазначаны валюнтарысцкі курс тагачаснага ўраду СССР: стары, запаведны лес уяўляўся ўладу маючым не так прыродаахоўнай ды навуковай каштоўнасьцю, як месцам для адпачынку і паляваньня высокіх чыноўнікаў.

Хоць варта сказаць і пра тое, што за гэты перыяд прыкметна палепшыўся быт супрацоўнікаў Пушчы. Вельмі хутка былі пабудаваныя адміністрацыйны будынак, школа, гасьцініца, музей прыроды, дом культуры, а таксама шмат жылых і вытворчых памяшканьняў. Паралельна з будаўніцтвам сацыяльных аб'ектаў у пасёлку Камянюкі была ўзьведзена і ўрадавая рэзідэнцыя ў Віскулях.

Сьвет даведаўся пра ўрочышча Віскулі ў сьнежні 1991 года. Вестка аб спыненьні дзейнасьці Савецкага Саюза пайшла менавіта адсюль — зь віскулёўскай прапіскай. Белавежская пушча тым самым як бы пацьвердзіла сваю гістарычную ролю, зрабіўшыся прыкметнаю кропкай на палітычнай карце.

Крыху раней, у верасьні, спыніла больш як 30-гадовае існаваньне і запаведна-паляўнічая гаспадарка. Свой час пачаў адлічваць

*Заканчэньне стар. 4.*

→ пераходам Пушчы ва ўдзельнае ведамства;

— павелічэньне колькасьці кварталаў за кошт зьмяншэньня іх памераў

1915–1919 — акупацыя Пушчы нямецкімі войскамі;

1919 — гібель апошняга белавежскага зубра;

— вяртаньне Пушчы ў польскае ўладарства

1921 — прыдбаньне двух зуброў у Нямеччыне для адраджэньня віду

1939 — пераход Пушчы да Савецкай Беларусі;

— стварэньне Дзяржаўнага запаведніка "Белавежская пушча"

1941–1944 — акупацыя Пушчы нямецкімі войскамі

1944 — падзел Пушчы на дзьве часткі (польскую і беларускую) згодна зь міжурадавым пагадненьем (падпісана І.Сталіным і Б.Берутам)

1946 — перадача польскім бокам 5 зуброў для ўзнаўленьня віду ў беларускай частцы Пушчы;

— паяўленьне янота-падобнага сабакі

1949 — засяленьне вадаемаў андатраю

1953 — на волю выпускаюцца першыя 18 зуброў

1956 — завоз баброў

1967 — рэарганізацыя запаведніка ў запаведна-паляўнічую гаспадарку "Белавежская пушча"

1958 — стварэньне вакол Пушчы буфернай зоны

1963 — заканчэньне будаўніцтва Музея прыроды і лабараторна-адміністрацыйнага корпуса

1991 — рэарганізацыя запаведна-паляўнічай гаспадаркі ў Дзяржаўны нацыянальны парк "Белавежская пушча"

1992 — ЮНЕСКО заносіць абсалютную запаведную частку Нацыянальнага парку ў сьпіс спадчыны чалавецтва;

— Сусьветны банк рэканструкцыі і разьвіцьця адпускае 1 мільен даляраў на захаваньне біялагічнай разнастайнасьці лясоў Пушчы

1993 — ЮНЕСКО надае нацыянальнаму парку "Белавежская пушча" статус Біясфернага запаведніка

1995 — выпуск першага нумара газеты "Белавежская пушча".

 



*Паводле апошніх зьвестак сацыёлагаў, больш за ўсё ў бліжэйшай будучыні жыхары Беларусі баяцца экалагічнай катастрофы і недаступнасьці ежы з-за росту цэнаў.*

*Са стар. 3*

нацыянальны парк "Белавежская пушча". А саюзная рэзідэнцыя ў Віскулях займела статус урадавай рэзідэнцыі Рэспублікі Беларусь. Што да векавой Пушчы, дык яна захавала самае галоўнае — сваю навуковую і эстэтычную каштоўнасьць. Больш за тое: рашэньнем ЮНЕСКО ад 14 сьнежня 1992 года яна ўключана ў спіс Сусьветнае спадчыны чалавецтва, стаўшы семдзесят трэцім прыродным аб'ектам падобнага чыну. Гэткай пашаны ня меў на той час аніводны запаведнік на абшары СССР. Пазьней, праз год, ЮНЕСКО надала Нацыянальнаму парку "Белавежская пушча" статус Біясфернага запаведніка — і парк-запаведнік трапляе ў адзіную сусьветную сістэму сачэньня за зьменамі ў навакольным асяроддзі.

Пра значнасьць беражлівых адносін да беларускага лесу і Белавежскай пушчы ў прыватнасьці сьведчыць той факт, што Сусьветны банк рэканструкцыі і разьвіцьця (Вашынгтон) адпусьціў на захаваньне біялагічнай разнастайнасьці жывёльнага і расьліннага сьвету Пушчы 1 мільён даляраў ЗША. Эксперты банка, якія наведаліся ў запаведнік, адзначылі надзвычай вялікую каштоўнасьць пародаў дрэў, большасьць якіх даўно перасягнула 100-гадовы рубеж.

Усе зьмены экасістэмаў у запаведніку-парку — як натуральныя, так і антрапагенныя — рэгіструюцца ў "Летапісу прыроды". Ход "самавылечваньня" ландшафтаў у часе можна параўнаць з поўнай падрабязнасьцяў "гісторыяй хваробы". Бяз гэтых ведаў чалавецтва рызыкуе страціць не адно ўнікальны пушчанскі лес, але перспектыву свайго існаваньня на планеце.

Белавежская пушча дадае трываласьці ўсім нам. Яна нясе сьвету адчуваньне вечнасьці, дабрыні і міру. ■

# Пушчанскія ельнікі

***Аляксандр Стралкоў, Віталь Прошча***

Блізу паўднёвае ўскраіны Белавежскае пушчы пралягае мяжа суцэльнага распаўсюджаньня елкі. Тут можна любавацца сапраўднай красою нерушных ельнікаў, якім Пушча аддала больш як 7 тыс. гектараў тэрыторыі. Паміж чыстымі ельнікамі ўбачыш і добра мяшаныя: з альхою ды шыракалістоўнымі пародамі. Запас драўніны ў сьпелым яловым лесе сягае ажно 400 і больш кубоў на гектар.



Гэта паказьнік таго, што ельнікі ў пушчы дагледжаныя ці не самім богам, — маюць тое, што яны любяць: вільгаць, гушчыню і спаконвечнасьць, дзе ў колазвароце біяпрацэсаў усё добра ўлежваецца й перагнівае, фармуючы належнае асяроддзе для багатага шчодрага росту.

Можна казаць і пра "таежныя" ўмовы, у якіх актыўна разьвіваюцца, гожа цягнуцца ў неба пікамі-пірамідамі белавежскія ельнікі. Маецца на ўвазе суцэльнасьць лесу, без палянаў і прагалаў. Чатыры-пяць кіламетраў будзеш брысьці, ды так і ня выйдзеш на паляну. Тайга, адным словам. Суцэльнасьць.



Фота: Тацьцяна Захарына (Неруш-прэс)

Пад мацярынскім полагам ялін добра разьвінаецца падрост. Часам маладыя елачкі растуць гэтак густа, што траўнай расьліннасьці не застаецца й месца ў таямнічым мораку пад шчыльнымі кронамі старых дрэваў. Калматыя, ў лішайніках галіны зьвісаюць нізка, ды так шчыгульна, што нават сонечнаму летняму промню цяжка прашыцца, каб дакрануцца зямлі ў зялёных плямках імхоў.

У ельніку рэдка дзе стрэнеш дзікага зьвера за ягоным сілкаваньнем. Хіба што для схову сюды прыблукае статак дзікоў, часам на лежку забрыдуць алені, альбо шукаючы паратунку ад лясное заядзі прыпыняцца ў прахалодзе зубры.

А вось лясная кошка — рысь — пад карэньнямі елак ладзіць сабе логава. Часта ненадзейнае, бо карэнішча ялін разьмяшчаецца блізка паверхні і ў адрозьненьне ад іншых парод за дол трымаецца нетрывала. Вельмі часта, асабліва пасьля буры, у лесе можна сустрэць пахіленыя ці паваленыя на дол магутныя елкі з глыбамі глебы на вываратнях.

Затое яліна больш за астатнія дрэвы зносіць цень. Нават у самае цемрадзі ніжнія галіны доўга не адміраюць. Больш за тое. Бывае, кранаюцца зямлі, пакрысе ў гэтым месцы прыхопліваюцца мяккім лясным подсьцілам ды мохам і, глядзіш, закараняюцца — пайшлі расьці вакол новыя елачкі. Але такое размнажаньне — зьява нячастая.

У Пушчы яліна цудоўна



Фота: Мікалай Чэркас (Неруш-прэс)

ўзнаўляецца праз несеньне, бо пладаносіць штогод вельмі шчодра. Яна засьцярожліва ўвешваецца шышкамі як мага вышэй ад зямлі — мімаходзь не абломіш. За ўраджайныя гады шышак бывае так многа, што вяршыня пад іхным цяжарам часта абломваецца сама.

Але дрэва працягвае жыць, расьці ўвысь. Адбываецца тут наступнае. Замест абламанай вяршыні актыўна пачынае йсьці ў рост адна зь верхніх бакавых галін, пераходзячы ў ствол. Аднак на месцы зломy застаецца серпападобнае скрыўленьне.

Слова "елка" для ўсіх нас шмат чым сымбалічнае: яно як нейкі інструмент асацыяцый. У аднаго выклікае ўспамін пра грыбныя мясьціны, у другога — пра зіхатлівы куточак у навагодняй хаце, у трэцяга — пачуцьцё асалоднага ценю ў сунічны поўдзень... І ў гэтую шматстайную сімфонію асацыяцый і вобразаў мякка ўплятаюцца сьпевы птушак, стук дзятла, трэск вогнішча, подых ветру, шолах травы...

Калі прыйдзеш у лес, прыгледзься навокал, знайдзі сваю елку, падай ёй руку для знаёмства. Яна не забудзецца на цябе, прыйдзе ў сны, агорне казкай дзяцінства, скіне шышку — і лепшага сувеніра табе не знайсьці. ■



 

# BOS URUS

## Слава беларускай фауны ў вянку белавежскай флоры

*Е.П.Вішнякоў*

***"Беловежская пуща" (Наброски пером и фотографиею).***

***С.-Пецярбург. 1894.***



*Зубр. З гравюры ў выданьні Брынкена, 1928 г.*

"Да дзікай і магутнай красы пушчы вельмі гарманічна пасуе і зубр — гэтая рэдкая парода зьвера, якая, здаецца, толькі тут і захавалася. Кажуць паміж іншым, быццам зубр водзіцца ў глухіх, мала даступных мясьцінах Каўказа, на вышынях галоўнага хрыбта — прынамсі, ўвагі на гэта сустрэнеш у Ловіца, Гольдэнштэйна, Розэна, Бера, Эйхвальда і Нормана.

У Заходняй Еўропе зубра, як асаблівую рэдкасьць, можна знайсьці хіба што толькі ў публічных зьвярынцах, куды ён трапляе, папярэдне прывезены ў выглядзе падарункаў зь Белавежскае пушчы розным Найвышэйшым Асобам. Гэтая рэдкая парода дзікага вала, трэба меркаваць, вадзілася раней ува ўсёй паўднёвай Еўропе, але там ужо даўно вывелася. За 300 гадоў да Нараджэньня Хрыстовага Арыстоцель згадвае пра дзікага вала, што водзіцца ў суседняй з Македоніяй Певоніі, аб ім жа ўпамінае Юлій Цэзар, называючы яго **bos urus**. Паводле апісаньняў Цэзара, гэта была вялізная жывёліна, падобная на свойскага вала, але з розьніцаю ў быстрыні, дзікасьці й разьюшанасьці. Тацыт сцьвярджае, што Фрызы пад час кіраваньня Ціберыя ўзьнялі бунт з тае прычыны, што ад іх патрабаваўся падатак зубрынымі шкурамі вядомае велічыні; іншыя гісторыкі гавораць пра бізона, але ўсе гэтыя ўвагі не даюць права дакладна заключаць, што ўпамінаная ў гісторыі парода жывёлаў ёсьць тая самая, рэшткі якое дагэтуль водзяцца ў Белавежскай пушчы. Ёсьць спасылкі на тое, што ва ўсходніх прускіх лясах апошні зубр выпадкова забіты адным браканьерам у 1755 годзе.

З выгляду зубр вельмі падобны да амерыканскага бізона, якога справядліва можна ўважаць за ягонага роднага брата. Розьніца паміж імі сыходзіць на тое, што бізон мае значна большую грыву ды лішнюю пару рэбраў, якіх ў яго 15 пар. Наагул жа зубр — вельмі прыгожая і моцная жывёліна, якая трохі нагадвае свойскага быка. Сярэдняя велічыня дарослага зубра сягае 8 ф.* даўжыні ад рог да хваста, вышыня ад капытоў пярэдніх ног да часткі гарба $5^{1/2}$ ф., ад капытоў задніх ног да крыжа — $4^{1/4}$ фута. Трапляюцца асобіны й куды большыя памерамі, як прыкладам забіты каралём Аўгустам III — даўжыня яго была роўная 11 футам, а вага 36 пудам. Тулава зубра надзвычай моцнае, пярэдняя частка яго больш масіўная і вышэйшая, чым задняя, галава ў яго кароткая, лоб шырокі, пукаты, шыя тоўстая і моцная, зьнізу акругленая, ногі кароткія і тоўстыя, невялікі хвост мае на канцы густы пэндзаль. Пара вялікіх, дужа злосных вачэй, мутны бляск якіх быццам хоча нагнаць жаху на ўсё навакольле, шырока пастаўленыя ўбакі; таму зубр ня можа бачыць наўпрост перад сабою, а, разглядаючы праціўніка, матляе галавою з боку ў бок. Адносна кароткія, чорныя рогі зубра выгнутыя ўперад і сур'ёзна пагражаюць усялякаму зьверу, на якога ўздумае ён выліць сваю шалёную злосьць. Усё цела зубра пакрытае густой поўсьцю, голае



*Фота: Ігар Бышнёў (Неруш-прэс)*

месца ўяўляе толькі невялікая частка носа. На галаве сьпераду тулава і на грудзях поўсьць падаўжаецца ў выглядзе грывы, а на падбародку і горле ўтварае бараду. Летні колер поўсьці — бліскучы цёмна-буры, зімою матавы шэра-буры; у цялятаў і маладых быкоў поўсьць чырванаватая ці шараватая. Зубр выдае гукі асабліва адметныя, блізкія да сьвінога рохканьня. Зубры трымаюцца статкамі ад 10 да 60 штук; у кожным заўсёды бывае важаты — альбо моцны самец, альбо часам — самка. Старыя зубры блукаюць самотныя і вылучаюцца лютасьцю. Гнеў свой зубр паказвае матляньнем галавы, рыцьцём зямлі нагамі, ўзмахваньнем хваста і аблізваньнем.

Летам статкі зуброў у Белавежскай пушчы рэдка паказваюцца чалавеку; згледзеўшы яго, хутка зьнікаюць у лясной глухамані. У гэтую часіну года балоцістыя месцы асабліва прыцягваюць гэтых жывёлін, якія знаходзяць тут і больш сакавітую траву, і магчымасьць выкупацца ды адчапіцца ад камарынага насланьня; з гэтаю ж мэтаю, на баравых мясьцінах, зубры разрываюць пясок, абкідваюць ім сябе і суседзяў і валяюцца нібы коні. Зімою зубры выбіраюцца на адкрытыя месцы і кормяцца за казённы кошт; дзеля гэтага шмат дзе ў пушчы для іх нарыхтоўваюцца лесьнікамі стагі сена, якія складваюцца, колькі таго трэба, у асаблівыя хляўчукі, паблізу якіх ставяцца карыты з аўсом. Зубр сілкуецца пераважна ўначы, а на дзень брыдзе адпачыць у больш глухія закуткі. Зімою зубр увогуле робіцца менш палахлівы і трохі прывыкае да чалавека, якога часьцяком бачыць. У гэты час года яго ўдавалася, і не аднойчы, сфатаграфаваць.

"Малы адносна прыплод зуброў вытлумачваецца тым, што зубрыца целіцца толькі раз на тры гады і апроч гэтага нярэдка самкі застаюцца ня цельнымі, таму што старыя зубры адбіваюць маладых. Павальныя хваробы шматразова наведвалі пушчу і пакідалі сярод статкаў зуброў вялікае спусташэньне, і агульная лічба іх часам падала ледзьве не да 300 галоў. Час каханьня ў зуброў пачынаецца ў пачатку восені. На гэты час самцы робяцца надзвычай раздражняльныя: яны рыюць зямлю рагамі, вырываюць з карэньнямі невялікія дрэўцы і прабуюць сваю моц, стукаючыся лбом і рагамі аб тоўстыя ствалы. Месца паядынкаў выбіраецца зазвычай на невялікай палянцы; гэтую пазіцыю і займае моцны бык, падпільноўваючы саперніка, якога заваблівае адметным рыкам, і прароблівае цэлую серыю пагражальных рухаў. Сапернік памалу падыходзіць, запыняючыся час ад часу і ўваходзячы ў большую ды большую лютасьць па меры набліжэньня, сваёй чаргою прымае пагражальную паставу і пасьля гэтага праціўнікам застаецца толькі пусьціць у справу свае кароткія ды моцныя рогі. З трэскам стукаюцца ілбамі, вочы, налітыя крывёю, выступаюць з арбітаў, з рота вывешваюцца языкі. Пасьля першай сутычкі ваякі адступаюць, мераюць адзін аднаго і не перастаюць пагражаць да наступнага прыліву шаленства, і новая, больш жорсткая, сутычка, набіраючыся шалу і страсьці па меры працягласьці бітвы, нярэдка заканчваецца калецтвам альбо сьмерцю пераможанага.

> *Пушча зьберагласяся таму, што ў ёй жылі зубры, а зубры зьберагліся таму, што была Пушча*

"Нягледзячы на сілу і мужнасць, зубры падвяргаюцца небясьпецы і неспакою з боку сваіх ворагаў, сярод якіх на першым месцы мядзьведзь, воўк і рысь. Ад чалавека зубр уцякае, канешне, калі яго не раздражняць, асабліва, калі зубр стары, так званы а д з і н е ц. Надзвычай тонкая адчувальнасьць своечасова падказвае зубру аб набліжэньні чалавека. Толькі падкрадваючыся пад ветрам, часам удаецца наблізіцца да статку крокаў на 100.

"З асаблівую жорсткасьцю нападаюць зубры на кабыл, ласёў і аленяў; здаралася, што гэтых апошніх знаходзілі забітымі паблізу зубровых хлявоў."

---

* *Фут — мера даўжыні, роўная 12 дзюймам (30,48 см). Англ. foot — ступня.* Рэд.

 

# АСОБА

***А**ўтар гэтых здымкаў Ян Ежы Карпінскі. Ў гонар ягоных заслуг усе зубры, народжаныя на волі ды адлоўленыя ў Пушчы для загоннага разьвядзеньня, атрымліваюць радаводны назоў, які пачынаецца зь літары "К..."*









❋ Пад дубам "Ягела" (з фігурай жанчыны)

❋ Прывезеныя зубрыцы са скрыняў выпушчаны на волю

❋ Лісьце брусьнічніку

❋ Вываранець-гара (з фігурай мужчыны)

**Х**то ён, гэтак высока ўшанаваны лёсам самое Пушчы спадар "К..."?

Ян Ежы Карпінскі (1896-1965) закончыў Лясны інстытут у Санкт-Пецярбурзе. Калі быў студэнтам (асістэнтам вядомага энтамолага праф. Халадкоўскага), пачаў друкаваць і свае навуковыя працы. Ў 1928 годзе заступіў на пасаду лясьнічага ў Белавежскай пушчы, а праз чатыры гады прызначаны дырэктарам Нацыянальнага парка (1932-1952).

Заснаваў тут сярэднюю школу для лесьнікоў і белавежскую філію Дасьледчага інстытуту лясной гаспадаркі. Увесь час пашыраў дзейнасьць Нацыянальнага парка, выкшталцоўваў ейны характар. Шмат працаваў на ўзнаўленьне ў Пушчы зуброў, мядзьведзяў,



 

ласёў, тарпанападобных коней. Склаў для музея выдатную калекцыю начыньня старадаўніх пушчанскіх борцяў. Арганізаваў у парку турызм і навучаў супрацоўнікаў майстэрству гідаў. Выявіў цікавасьць да назоваў пушчанскіх урочышчаў, пакінуў цэлы сьпіс тапонімаў, да якога зьвяртаюцца сёньня і гісторыкі, і лінгвісты. Яму належыць таксама арыгінальная клясіфікацыя біятопаў Пушчы. Нельга не адзначыць і літаратурныя здольнасьці Карпінскага — бліскучага папулярызатара ведаў аб прыродзе.

Як бачым, выбітны вучоны, энтамолаг, адмыслоўца ў галіне караедаў і — да ўсяго — дырэктар запаведніка, прафесар "К" меў надзвычай шырокае кола інтарэсаў. Ня ўсім вядома, напрыклад, што ён яшчэ быў і паэт, напісаў за сто вершаў, некаторыя зь якіх пакладзеныя на музыку.

І, нарэшце, Ян Ежы Карпінскі — як фатограф. У архіве музея Белавежскага народнага парку (Польшча) захоўваецца за 500 ягоных шкляных негатываў зь Белавежскае пушчы і Ўсходніх Карпатаў.

"К"-фатограф меў стары апарат з шклянымі негатывамі. Калі здымаў дрэвы-веліканы, прыкладам, елкі альбо ясені, дык ставіў побач егера для параўнаньня, і той мусіў колькі хвілін стаяць нерухома струною, бо негатывы былі малаадчувальныя. Некаторыя выявы на негатывах адлюстравалі гістарычныя падзеі, прыкладам, выпуск з клетак зуброў у 1929 годзе, калі пасьля 10-гадовага перапынку яны зноў вярнуліся ў Пушчу.







Для ўшанаваньня заслуг Яна Ежы Карпінскага, перш-наперш ва ўзнаўленьні пушчанскага волата, усім зубрам, што народжаныя на волі і адлоўленыя на польскім баку Пушчы для загоннага разьвядзеньня, надаюцца радаводныя мянушкі, якія пачынаюцца зь літары "К..."

Шматгранная дзейнасьць Карпінскага — бліскучы прыклад для наступнікаў у справе памнажэньня навукова-культурных традыцыяў Белавежскай пушчы. ■

- Група коней
- Вянерына туфелька (зд. у цэнтры)
- Начная фіялка (зд. унізе)
- Зязюлін сьветнік (зд. уверсе)
- Старыя яліны

*Фотаздымкі зь бібліятэкі Белавежскага Народнага парку (Польшча).*





# СТАТУТ 1588

## О пущах, о ловах, о бортном дереве, об озерах и лугах

**Статут Вялікага княства Літоўскага 1588.**

***Разьдзел дзясяты.***

*"Статут Вялікага княства Літоўскага 1588" — сусьветна вядомы помнік права, зь ліку такіх як законы Хамурапі, законы Ману, Законы дваццаці табліц, Кодэкс Юсьцініяна, Руская Праўда і інш. На працягу 250 гадоў быў дзеючым законам на тэрыторыі Беларусі, Летувы і Украіны і складаў аснову ўсяе прававой сістэмы Вялікага княства Літоўскага. На погляд БП, "Разьдзел дзесяты", які мы зьмяшчаем амаль цалкам, падае "Статут" — велічны помнік прававой думкі і старабеларускай пісьменнасьці 16 ст. — яшчэ ў адной якасьці: гэта яскравае сьведчаньне адвечнае шчодрасьці беларускай прыроды, яе жыцьцядайнасьці і багацьця, якое цяпер вучоны сьвет называе біялагічнаю разнастайнасьцю.*

*Пераклад разьдзела на рускую мову (на сучасную беларускую рэдакцыі невядомы) зроблены на грунце адаптаванага тэксту кандыдатам юрыдычных навук дацэнтам Т. Доўнар (Статут Вялікага княства Літоўскага 1588, Мінск, Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1989).*

### Артикул 1. О ловах

Устанавливаем, кто бы незаконно охотился в чужих охотничьих угодьях, тогда должен заплатить за насилие тому, в чьей пуще охотился, двенадцать рублей грошей, а за зверей, сколько их было добыто, должен заплатить по цене, указанной ниже. А если бы кто послал стрелков в чужую пущу или сам тайком зверя убил, тогда, если это будет доказано достоверными доказательствами, то сколько будет зверей убито, таковой должен за каждого зверя заплатить по цене, описанной ниже. А если бы стрелка поймали в пуще над убитым зверем, то он должен быть отведен к нашему вряду, в замок или судебный двор того повета, в котором это случится, и официальным листом известить господина того стрелка или врядника его, положив через возного копию того листа в имении этого господина, с которого тот стрелок в пущу чужую ходил, и срок разбирательства назначить, исходя из расстояния дороги, но не далее двух недель, чтобы к слушанию дела во вряд наш прибыл. А когда в суде на основе достоверных доказательств тот стрелок будет признан виновным, тогда за каждого зверя должен будет вдвойне заплатить. А за вину, что в чужую пущу стрелять ходил, должен сидеть в заключении в замке или во дворе нашем шесть недель и не может быть отпущен с тюрьмы до тех пор, пока не заплатит за зверя. А если бы господин того охотника или врядник не прибыл в назначенный срок, тогда уже сам суд может судить того стрелка так, как описано выше. А если бы кто подстрелил или ранил зверя на своей земле, а тот зверь ушел бы на чужую землю, в таком случае, хотя и за раненым зверем, но никто ходить не должен через границу в чужую землю. А кто бы, перейдя границу, зверя того добил, тогда подлежит таковому же штрафу, как выше в этом артикуле установлено. Однако за волком и лисою позволяется с собаками ехать и на чужую землю по полям и перелескам, только бы какого вреда в вытаптывании хлеба не было причинено.

### Артикул 2. Цена диким зверям

Устанавливаем цену диким зверям, которые были бы убиты кем-либо в чужой пуще: за зубра — 12 рублей грошей, за лося — 6 рублей грошей, за оленя или за лань — 6 рублей грошей, за медведя — 3 рубля грошей, за коня или за дикую кобылу — 3 рубля грошей, за дикого кабана или за свинью — рубль грошей, за серну — копу грошей, за рысь — 3 рубля грошей, за соболя — 2 рубля грошей, за куницу — полкопы грошей.

### Артикул 3. О бортях, об озерах и лугах, кто имеет их в чужой пуще

Также устанавливаем: кто имеет свои борти в пуще нашей, государевой, или также в княжеской, панской и земянской, каким образом могут пользоваться, а именно: кто имеет свои борти или озера, или сенокосные луга и при лугах избушки в чьей-либо пуще, то ему к озеру ехать с неводом позволяется, но не должен брать с собой ни собаки, ни рогатины, и никакого оружия, чем бы мог причинить вред зверю. А кто имеет сенокосные луга в чужой пуще, тот должен своими старыми лугами пользоваться, а новых не должен прибавлять. А если бы старые луга заросли, то может их расчистить. А кто имеет также борти в чьей-нибудь пуще, то бортники, которые должны ходить к своим бортям, не должны брать с собою ни собак, ни рогатин, никакого вообще оружия, которым могли бы зверю вред причинить. Но бортники могут только иметь при себе топор и пешню, чем делают борти. А к лугам должны идти только с топорами, чем заросли вырубают, и с косою, чем траву косить... Однако тем, которые озера имеют в чьей-либо пуще, когда приедут зимой ловить рыбу в своих озерах, позволяется им брать дрова в этой пуще для своих избушек и корыта для рыбы сделать. А тем, которые сенокосные луга имеют, позволяется взять дерево для скирды или стога, сделать сеновал или огородить. А бортникам позволяется драть лыко на свои рабочие принадлежности и на иные нужды, и столь, сколь им будет нужно и сколько на себе может унести, но не возом вывозить. А если бы дерево, в котором будет их борть, обвалилось с пчелами или без пчел, позволяется улей с бортью отделить и вывезти, а верхушку и пень дерева оставить тому господину, чья будет пуща. А дерево на строительство и дрова, пользуясь таким правом входа, никто из чужой пущи брать не должен. А ежели кто издавна имеет озера, луга и борти в чьей-либо пуще, тогда по

**РОЗДЕЛЪ ДЕСАТЫ:**
**О ПУЩУ, О ЛОВЫ,**
**О ДЕРЕВО БОРТНОЕ,**
**О ОЗЕРА И СЕНОЖАТИ**

*Уставуем: хто бы чые ловы гвалтом половил, маеть гвалту заплатити дванадцать рублей грошей, а зверу, колько будеть уловил, ценою, як нижей описано, маеть платити. А если бы хто стрельцов послал у чужую пущу або сам таемне звер побил, тогды, если будеть то на нево слушным доводом...*

своим лугам чужих озер, а по своим бортям чужого леса присваивать не может. А тот, в чьей пуще озера, луга и борти будут, также тех чужих входов в свою пущу отнять не может. А когда пущу свою пожелает вырубить, не должен бортям и дереву бортному никакого вреда причинять. А если бы кто, раскорчевывая поле, чье-либо дерево бортное или на борть приготовленное, назначенное, с пчелами или без пчел, подрубил или опалил огнем и вред какой тому дереву причинил, по какой причине дерево то могло бы засохнуть, тот тому, чьему дереву вред причинил, должен за это будет заплатить по постановлению нашему, приведенному ниже, а когда на чьем-нибудь поле будет чужое бортное дерево, то он, распахивая свое поле, не должен это бортное дерево подпахивать так близко, чтобы можно было от сохи достать дерево палкой, которой погоняют волов. А если ближе то дерево подпашет и то дерево от этого засохнет, тогда он обязан будет за него заплатить по постановлению, ниже описанному. А кто бы таковую пущу расчистил, то тех давних входчиков от бортей, озер, лугов отлучать не должен, а они тоже, когда будут ходить через те входы, хлебу никакого вреда причинять не должны.

### Артикул 4. Если бы кто выловил рыбу в чужом озере, находящемся в его пуще.

Устанавливаем: кто бы рыбу выловил в чужом озере, находящемся в своей пуще, тогда должен владельцу озера заплатить за насилие и за рыбу столько, сколько пострадавший укажет под присягой, какой ему причинен ущерб в рыбе, удовлетворить полностью. Также если кто в своей пуще скосит траву насильно с чужого сенокоса и, вытесняя владельца с его сенокоса, побьет его, тогда обязан будет за насилие заплатить 12 рублей грошей и навязку за побои. А если никого не избил, но скосил траву с чужого сенокоса или забрал скошенную траву, тогда обязан будет заплатить за сено с навязкою по закону, в этом статуте описанном ниже.

### Артикул 5. Если бы кто застиг в своей пуще чьего-либо человека и взятое отнял

Если бы кто-либо в своей пуще и в каком другом лесу, в бору, роще, дубравах и иных лесах застиг чьего-либо человека, рубящего или везущего дерево, или, идя за ним следом, догнал на дороге и отобрал, тогда тот, кто отобрал, волен будет вместе с тем отнятым того человека или тех людей, сколько их поймает с тем деревом, вести в свой дом, а затем должен известить об этом происшествии в срок не далее 3 дней того пана-земянина, чьи это будут люди, или врядника его с одним посторонним человеком, чтобы взял на поруки тех людей вместе с отнятым и выехал на порубку. А этот пан или его врядник, взяв на поруки людей с тем отнятым с условием, что все то, что будет присуждено на порубке, обиженной стороне будет выплачено, и сем отнятым и под той порукой должен выехать на вырубку на следующий же день и там доставить удовлетворение за причиненный порубкой вред. А тот, кто захватил людей, может свои убытки в соответствии с правом доказывать сам, особенно относительно большого вреда, а в малом убытке, до десяти коп грошей, через своих лесных сторожей, и если эти убытки докажет, то ему должно быть выплачено по ценам, описанным в этом статуте. А если бы кто, взяв захваченных людей на поруки, не выехал на порубку или, выехав, не удовлетворил потерпевшего по закону, то возный с двумя шляхтичами должны тот убыток оценить, и тогда обиженный с поручителя, а поручитель с того, за кого поручился, по суду истребовать могут. А если бы кому-либо не было причинено вреда в пуще или в лесу, а он без вины отнял что-нибудь, то должен заплатить штраф за обиженного человека и захваченное имущество и отнятое возвратить. А кто бы после уведомления о захвате людей взять их на поруки и на вырубку выехать и об этом рассудиться не захотел, но, напротив, еще что-нибудь захватил у противной стороны, тогда теряет захваченное, а то, что насильно захватил, с навязкою обязан будет возвратить и еще за вину штраф три рубля грошей заплатить. А если у них возникнет спор о земле, тогда могут об этом по закону рассудиться в надлежащем суде.

### Артикул 6. Кто бы вел спор по поводу бортей или о входах в пущу

Также устанавливаем: кто бы имел спор о бортях или о входах в пущу и желал бы кого вытеснить от бортей и от входов, а каким-нибудь образом

